**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства
«Дарога на Вільню
плюс»,
пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009
г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Штотыднёвая газета**

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае

**Выдаецца са снежня 1994 года**

7 (567) 17 лютага 2011 года

Кошт свабодны.

## Докшыцкі раён

# Раней і не снілася

■ Станіслаў Раманчук

**Вось ужо каторы месяц на большасці малочна-таварных ферм Віцебшчыны працягваюць расці надоі.**

Дзякуючы вялізным укладанням у галіну, ужо каля 40 % атрымaнага малака па вобласці закуплена класам “экстра”. У Докшыцкім раёне палову такой якаснай праукцыі рэалізуе сельгаспрадпрыемства “Гняздзілава”, дзе яшчэ мінулай восенню здалі ў эксплуатацыю новую камп’ютарызаваную ферму з даільнымі заламі. Яшчэ некалькі гадоў назад аб такіх умовах працы людзі маглі толькі марыць, як і аб стабільных заробках пад 2 мільёны рублёў у месяц. Таму работнікі фермы за працу трымаюцца, нават навагодние свята сустракалі ва ўтульным пакоі адпачынку без спіртных напояў. Праўда, некалькіх жывёлаводаў прыйшлося адсюль звольніць, бо былі не ў ладах з дысцыплінай і маглі загуляць. Надоі тут яшчэ летась наблізіліся ў паўтысячы рагуль пад 6 тысяч літраў на кожную, і гэта не мяжа. У гаспадарцы стварылі трывалую кармавую базу, кароў уласнай гадоўлі кормяць як трэба – адсюль і вынікі. Дарэчы, выручка ад адной толькі гэтай фермы склала летась амаль 1,7 мільярда рублёў. Нядрэнная сітуацыя і на іншых фермах, паколькі ў людзей нарэшце з’явіліся нарміраваны рабочы дзень, выхадныя і водпускі па графіку.

## Пастаўскі раён

# З агнём жарты дрэнныя

■ Кастусь Александровіч.

**Год толькі пачаўся, а на тэрыторыі толькі Пастаўскага раёна ў сярэдзіне зімы ўжо было зафіксавана 13 пажараў.**

Калі ў студзені тут абышліся без чалавечых ахвяр, то першыя выхадныя лютага прынеслі сумную статыстыку. У выхадны дзень выратавальнікам райаддзела МНС прыйшлося з інтэрвалам у некалькі гадзін выязджаць па сігналу трывогі. Спачатку ў вёсцы Цівунцы Варапаеўскага пассавета ў сялянскай хаце пры тушэнні пажару яны знайшлі труп гаспадара 1955 года нараджэння. Як мяркуецца, прычынай гібелі вяскоўца стала банальнае курэнне ў ложку пасля выпіўкі. Пасля абеду днём прыйшло паведамленне аб пажары ў гаражы ў вёсцы Лявонавічы Камайскага сельсавета. Там 42-гадовы гаспадар захоўваў свой “Фольксваген-пасат” у нежылым памяшканні дома, прыстасаваным пад гараж. Калі ўзнікла ўзгаранне, мужчына паспрабаваў самастойна справіцца з агнём. На жаль, падчас інцыдэнту выбухнуў і газавы балон, полымя знішчыла іншамарку, згарэў і дах гаража, былі моцна пашкоджаны сцены і маёмасць дома. У дадатак да гэтых бед цяжкую траўму нагі атрымаў і сам гаспадар, яму ампутавалі частку канечнасці левай нагі. Прычынай здарэння стала кароткае замыканне электраправодкі машыны.

## Глыбоцкі раён

# Кармы ... з лёну і рапсу

■ Чэслаў Якубовіч

**Ужо некалькі дзесяцігоддзяў камбікормавы завод у Глыбокім займаецца вырабам камбікармоў для рознай жывёлы.**

Тут выйшлі на аб’ёмы выпуску да 60 тысяч тон камбікармоў і 300 тон пярловай крупы ў год. Аднак цяпер рынак дыктуе любому вытворцу не спыняцца на дасягнутым і пашыраць сферы сваёй дзейнасці. Заняліся гэтым і глыбачане, пачалі тэхнічную мадэрнізацыю і перайшлі на камп’ютарны кантроль прыгатавання кармавых дабавак. Спачатку на заводзе асвоілі вытворчасць вітамінных дабавак на аснове насення лёну. На пару з замяняльнікам цэльнага малака навінка выкарыстоўваецца у камбікармах для жывёлагадоўчых комплексаў і птушкафабрык. Новае абсталяванне амерыканскай вытворчасці каштавала прадпрыемству амаль паўмільярда рублёў, але экструдэр сябе апраўдае, бо ў вобласці ствараецца льнаводчы холдынг. У пачатку гэтага года тут запусцілі і чэшскую лінію па перапрацоўцы насення рапсу. Гэта сапраўдны мініцэх, які здольны штогод перапрацоўваць да 20 тысяч тон вырашчанага рапсу. З яго пачалі атрымоўваць жмых і масла, якія будуць выкарыстоўваццца далейшай вытворчасці камбікармоў. Адзінае, каб гаспадаркі свайго і суседніх раёнаў атрымоўвалі добрыя ўраджаі. У планах завадчан таксама пачаць перапрацоўваць і насенне сланечніку, які добра расце ў Расіі і на Украіне.

## Надвор’е ў Глыбокім

www.rp5ru

| | чацвер 17.02.11 | | | | пятн. 18.02.11 | | | | сб. 19.02.11 | | | | нядз. 20.02.11 | | | | пн.21.02. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 02:00 | 08:00 | 14:00 | 20:00 | 02:00 | 08:00 | 14:00 | 20:00 | 02:00 | 08:00 | 14:00 | 20:00 | 02:00 | 08:00 | 14:00 | 20:00 | 02:00 | 08:00 | 14:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература, °С | -20 | -20 | -16 | -20 | -23 | -25 | -19 | -23 | -24 | -24 | -19 | -20 | -20 | -19 | -16 | -17 | -18 | -20 | -16 |
| Ціск, мм | 754 | 754 | 755 | 756 | 757 | 757 | 758 | 758 | 758 | 758 | 757 | 757 | 757 | 756 | 757 | 757 | 757 | 757 | 757 |
| Вільготнасць, % | 91 | 89 | 86 | 83 | 82 | 88 | 84 | 80 | 85 | 84 | 83 | 80 | 80 | 85 | 85 | 78 | 78 | 79 | 75 |
| Вецер м/сек | В 2 | В 3 | В 3 | В 3 | В 3 | В 3 | В 4 | В 4 | В 4 | В 4 | В 5 | В 4 | Ю-В 4 | В 4 | В 5 | В 4 | В 4 | В 4 | В 5 |
| | | 07:29 | 17:19 | | | 07:26 | 17:21 | | | 07:24 | 17:23 | | | 07:22 | 17:25 | | 07:20 | 17:27 | |
| | | 16:28 | 06:37 | | | 18:01 | 06:57 | | | 19:34 | 07:14 | | | 21:06 | 07:30 | | 22:37 | 07:48 | |



## Лічба нумара

**23** – столькі гадоў правіў Тунісам Прэзідэнт гэтай краіны Зін аль-Абідзін бен Алі. Як вядома, у выніку масавых акцый пратэсту ён вымушаны быў імкліва ўцячы адтуль і знайсці прытулак у Саудаўскай Аравіі, прыхапіўшы з сабой золата і іншыя каштоўнасці. Пратэсты народа, якія назвалі “жасмінавай рэвалюцыяй”, затым прывялі да сапраўднай хвалі ўзрушэнняў у Егіпце, Йемене, Сірыі і Іарданіі, стала неспакойна ў Алжыры і Марока. Цікава, што кіраўніцтва Францыі папрасіла прабачэння ў туніскага народа за тое, што занадта доўга вяла эканамічныя стасункі з правячым рэжымам бен Алі і не заўважала незадавальненне тунісцаў аўтарытарным праўленнем.

Дарэчы, адным з першых адрэагаваў на падзеі ў Тунісе расійскі лідэр Дзмітрый Мядзведзеў, які заўважыў, што кіраўнікі ўсіх краін свету павінны зрабіць для сябе адпаведныя вывады, не спачываць на лаўрах, седзячы дзесяцігоддзямі ва ўтульных кіруючых крэслах. Між тым, сам бен Алі прыйшоў да ўлады ў выніку ваеннага перавароту і потым 3 разы выйграваў “псеўдавыбары” з вынікамі 99,1 – 89,6 % галасоў у сваю падтрымку. Меней чым два гады назад ён забяспечыў сабе пяты па ліку тэрмін кіравання краінай на выбарах, ведучы рашучую барацьбу са сваімі апанентамі.

У цалкам мусульманскай краіне гэты дыктатар узяў на ўзбраенне лозунг барацьбы з “радыкальным ісламізмам”. На практыцы гэта давала яму магчымасць нават забіваць сваіх апанентаў, саджаць незадаволеных рэжымам у турмы альбо выганяць з краіны апазіцыйных палітыкаў і незалежных журналістаў. Характэрна, што на мясцовага царка і ягоныя шматлікія парушэнні правоў чалавека закрывалі вочы на Захадзе. Больш таго, на працягу трох апошніх гадоў Еўрасаюз выдзеліў на туніскія дзяржаўныя праграмы 330 млн. еўра падтрымкі. Туніс апошнім часам атрымаў ад ЕС больш за 4 млрд. еўра дапамогі і атрымаў нават статус “асацыіраванага партнёра”.

Найбольш моцна падтрымлівалі былы туніскі рэжым Францыя з Італіяй. Скандальна вядомы сайт Vikileaks на гэты конт прывёў дакументы аб тым, што кіраўнікі гэтых краін цудоўна ведалі, што ў Тунісе гадамі былі палітычныя рэпрэсіі. Праўда, прызнаючы свае памылкі ў палітыцы добрасуседства, ЕС пайшоў днямі на арышт банкаўскіх рахункаў экс-дыктатара, ягонай жонкі і яшчэ 46 асоб з былой правячай эліты Туніса. Услед за гэтай былой еўрапейскай калоніяй пачаліся шматмільённыя выступленні пратэсту і ў буйнейшай краіне пірамід.

Егіпецкім народам вось ужо 30 гадоў правіў пажыццёвы прэзідэнт Хосні Мубарак, які за гэты час здолеў зрабіць сябе і свой клан супербагацейшым ( на яго рахунку і прыбліжаных ад 40 да 70 млрд. долараў). Насельніцтва Егіпта дасягнула 80 млн. чалавек, а па ўзроўні даходаў займае толькі 147-е месца ў свеце. Большая частка егіпцян жыла на даходы меней 4 $ у дзень, а калі рэзка выраслі цэны на прадукты харчавання і былі адменены субсідыі на харчаванне, народ ужо больш не мог гэта цярпець.

Спачатку егіпцяне выставілі эканамічныя патрабаванні, а калі егіпецкі дыктатар на фоне высокага беспрацоўя і масавай карупцыі паспрабаваў сілай падавіць бунт, адключыў інтэрнэт і мабільную сувязь – толькі павялічыў сілу народнага гнеу. Усім стала відавочна, што егіпцяне проста стаміліся ад свайго шматгадовага “гаранта Канстытуцыі” і не спужаліся паліцыі, устаноўленай каменданцкай гадзіны. Відавочна, што ў гэтай краіне будуць змены, аберуць новы парламент і новага прэзідэнта.

Як снежны ком, масавыя антыўрадавыя выступленні зараз сатрасаюць і іншыя дзяржавы арабскага рэгіёна. Як там будуць развівацца падзеі далей, пакажа бліжэйшы час. Цывілізаваны свет толькі непакоіць, каб там прайшлі дэмакратычныя пераўтварэнні і да ўлады не дарваліся радыкальныя барадатыя мусульмане-фанатыкі. Ацэньваючы гэтыя падзеі, трэба зазначыць, што заўсёды і ўсюды правіцелям трэба лічыцца са сваім народам, не трымацца за ўладу дзесяцігоддзямі. Інакш, якая б моцная ні была аўтарытарная ўлада, ёй не ўтрымацца за шчытамі паліцэйскіх спецпадраздзяленняў, калі не лічыцца з асноўнымі правамі народа на годнае, свабоднае і дастойнае жыццё.

## Дзень за днём

**Канцэрн "Белнафтахім" паабяцаў пакуль не павышаць цэны на бензін, хоць і змяніліся сёлета ўмовы закупак нафты з Расіі. Не спраўдзіліся зноў надзеі, што 2011 год аб'яўць у Беларусі Годам роднай мовы і культуры, сёлета мы будзем жыць пад Годам прадпрымальнасці. Адной з непрыемных тэндэнцый наступіўшага года стаў рост цэн на прадукты харчавання, асабліва на бульбу і грэчку. У кіраўніцтве Беларусі сталі адкрыта гаварыць аб ліквідацыі альбо прадажах інвестарам неэфектыўных і неперспектыўных прадпрыемстваў, бо яны ставяць пад пагрозу эканамічную і фінансавую бяспеку дзяржавы.**

# Важнейшыя навіны свету

**Егіпет.** Пад моцным ціскам абуранага беднасцю народа 82-гадовы шматгадовы егіпецкі Прэзідэнт Хосні Мубарак пагадзіўся на рэформы, паабяцаў больш не правіць.

**Іспанія.** Іспанскі ўрад вырашыў павысіць узрост выхаду на пенсію з 65 да 67 гадоў, гэта дазволіць палепшыць сітуацыю з дзяржаўным доўгам, не дапусціць дэфолту эканомікі.

**Украіна.** Прэзідэнт краіны ўнёс змены ў Канстытуцыю, тэрмін паўнамоцтваў яго і парламента павялічылі з 4 да 5-ці гадоў, новыя парламенцкія выбары будуць у 2012 годзе.

**ЗША.** ВПС краіны правялі першы дэманстрацыйны палёт новага беспілотнага бамбардзіроўшчыка Х-47В, які з борткамп'ютарам здольны выканаць любое заданне.

**Італія.** Кампанія "Alitalia" адмовілася ад набыцця новых расійскіх самалётаў "Сухой SSJ 100" на карысць бразільскіх, Расія страціла 0,5 млрд. долараў.

**Польшча.** Глава польскага МЗС Р. Сікорскі заявіў, што масавыя антыўрадавыя выступленні на арабскі манер могуць накрыць і Беларусь, што абурыла афіцыйны Мінск.

**Расія.** Глава МЗС РФ С. Лаўроў назваў хвалю масавых арыштаў у РБ пасля выбараў "непрымальнай", ужо 42 чалавекі атрымалі абвінавачванні па справе падзей 19 снежня.

**Йемен.** Пад даўленнем народа 68-гадовы Прэзідэнт Алі Абдала заявіў аб зыходзе на пенсію і аб неперадачы сваёй пасады сыну ў імя інтарэсаў нацыі, хоць мог яшчэ правіць.

**Германія.** Вядомы палітолаг Аляксандр Рар папярэдзіў, што Беларусь можа атрымаць новыя санкцыі і многае згубіць, калі прадоўжыць канфрантацыю з Еўрасаюзам.

**Казахстан.** На месяц пазней плана перанеслі на касмадроме Байканур запуск другога па ліку беларускага спадарожніка зандзіравання Зямлі, першая спроба скончылася аварыяй.

**Італія.** Спецыялісты пацвердзілі, што на славутай карціне Леанарда да Вінчы "Мона Ліза" намалявана не жанчына, а юнак Джакома, які працаваў 20 год у майстэрні мастака.

**Англія.** Былому мэру Масквы Ю. Лужкову выдалі ўязную візу на аснове палажэння аб злучэнні сям'і, у Лондан раней пераправіліся жыць яго жонка А. Батурына і дзве дачкі.

**ЗША.** Амаль трэць насельніцтва краіны (каля 100 млн. чалавек) трапілі ў зону дзеяння магутнага зімовага шторму са снегам і абледзяненнямі, адменена шмат авіярэйсаў, вучэбныя заняткі.

**Расія.** Пасля амаль 2-х месяцаў лячэння з бальніцы выпісалі вядомага спевака Барыса Маісеева, пасля перанесенага крывазліцця ў мозг ён не можа нармальна размаўляць.

**Ватыкан.** Напярэдадні беатыфікацыі 1 мая Папы Рымскага Яна Паўла ІІ цэны ў гатэлях Рыма падскочылі ў 2-3 разы, чакаецца прыезд на ўрачыстасць каля 1 млн. вернікаў.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Да канца 2015 года беларусы, як заявіў прэм'ер-міністр М. Мясніковіч, павінны аплочваць паслугі ЖКГ на 60 %, газ і свет – на 100 %, іх заробкі складуць 80 % польскіх.

**Івацэвічы.** З дапамогай службовай сабакі міліцыя раскрыла серыю крадзяжоў кабелю з новабудоўлі ААТ "Івацэвічыдрэў", якія здзейсніў ... вартаўнік будаўнічага аб'екта.

**Бабруйск.** Будаўніцтва пятага па ліку цукровага завода ў Беларусі, як паведамілі ў канцэрне "Белдзяржхарчпрам", пакуль адкладзена, бо гэта будзе неакупны праект.

**Мінск.** За апошнія 10 гадоў насельніцтва РБ, як заявіла міністр працы і сацабароны М. Шчоткіна, зменшылася на 540 тыс. чалавек, летась зноў упала нараджальнасць на 1690.

**Брэст.** Па выніках конкурсу "Брэнд года-2010" кампанія "Савушкаў прадукт" заваявала найбольш у РБ узнагарод – Гран-пры і 4 залатыя медалі, у суткі тут выраб 2,5 тыс. тон.

**Пружаны.** За занадта ліберальны падыход да дзейнасці французска-рускай фірмы "Данон-Юнімілк" праца кіраўніка раёна не задаволіла дзеючага Прэзідэнта Беларусі.

**Светлагорск.** Начны пажар на дачы ў прыгараднай вёсцы Сякерычы забраў жыцці пяці студэнтаў, святкаваўшых дзень нараджэння сябра, выратаваўся толькі адзін.

**Гомель.** Айчынны "антырэкорд" устанавіў мясцовы дзяржбудкаледж, дзе выявілі 230 выпадкаў атрымання ад студэнтаў хабару за пасляховую здачу залікаў і экзаменаў.

**Мінск.** На праспекце Жукава пачаліся работы па ўзвядзенні ўнікальнага для РБ эстакаднага маста на трох узроўнях даўжынёй амаль паўкіламетра над лініяй метро.

**Скідаль.** Пасля сутыкнення ў гарпасёлку двух іншамарак пашкоджанні атрымалі яшчэ 2 легкавушкі і аўтобус ПАЗ, найбольшыя траўмы атрымала цяжарная маладая кіроўца.

**Гродна.** Амаль 20 млрд. рублёў пайшло на рэканструкцыю старэйшага і буйнейшага ў краіне заапарка, работы працягваліся 7 гадоў і поўнасцю закончацца гэтым летам.

**Пінск.** Шыкоўны падарунак ДЮСШ №3 рашыў зрабіць зямляк, буйны расійскі бізнесмен Аляксандр Зарыбка, за 8 млн.$ ён пабудуе сучасны футбольны спарткомплекс і стадыён.

**Мінск.** На сцэне музтэатра прайшла прэм'ера мюзікла кампазітара Кіма Брэйтбурга "Блакітная камея", адну з галоўных партый выканала беларуская спявачка І. Дарафеева.

**Барысаў.** Аднаму з лепшых ігракоў ФК "БАТЭ" бразільцу Р. Брэссану ФІФА дазволіла гуляць за зборную Беларусі па футболе толькі пачынаючы з сезона 2012 года.

**Гомель.** Адразу 6 тон лёду пайшло для наладжвання выставы ледзяных скульптур, якая зноў адкрылася ў паўночным крыле палаца-паркавага ансамбля Румянцавых-Паскевічаў.

# Студэнтам адмянілі бясплатны праезд



■ Марына Паўлава

**З 10 лютага студэнты Віцебскай вобласці зноў плацяць за праезд у грамадскім транспарце.**

Адменены льготы і для навучэнцаў ПТВ, тэхнікумаў, каледжаў і іншых прафесійных навучальных установ. Звязана гэта з тым, што арганізацыі-перавозчыкі нясуць велізарныя страты, якія ніхто не кампенсуе. Шматлікія з іх былі змушаны паніжаць зарплату кіроўцам і кандуктарам, у сувязі з чым назіраецца адток кадраў і цяжкасці з прыцягненнем новых працаўнікоў.

Па чутках, афіцыйнага распараджэння мясцовых улад ці якога-небудзь іншага дакумента, які б рэгламентаваў адмену льгот, не існуе, транспартныя прадпрыемствы адмянілі іх, кіруючыся вусным указаннем аднаго з намеснікаў старшыні аблвыканкама. Дэ-факта рашэнне абласной Рады дэпутатаў, якое было прынята напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў і на падставе якога навучэнцам і студэнтам былі прадстаўлены ільготы, ніхто не адмяняў.

# Некаторыя школы Глыбоччыны - на карантыне

■ Алесь Сьнег

**Некаторыя школы Глыбоцкага раёна былі зачыненыя на карантын з мэтай пазбягання распаўсюджання інфекцыі пад час эпідэміі грыпу.**

Як паведамляе галоўны ўрач Віцебскага абласнога цэнтра гігіены, эпідэміялогіі і грамадскага здароўя Уладзімір Сінкевіч, усяго ў вобласці навучальны працэс прыпынены ў 82 школах - у Оршы, Віцебску, Глыбоцкім, Дубровенскім, Лепельскім і Сенненскім раёнах. У некаторых школах - у Аршанскім, Лёзненскім і Талачынскім раёнах - карантын ужо скончыўся, і вучні вярнуліся на заняткі.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** Колькасць насельніцтва вобласці скарацілася ў мінулым годзе яшчэ на 8057 чалавек, што на 590 болей, чым пазалетась, амаль палова шлюбаў (4800) распалася.

**Дуброўна.** У мясцовым цэху "Віцебскмеліявадгаса" пачалі зборку бульдозераў з камплектуючых расійскага завода ў Чалябінску, тэхніка выходзіць танней на 10 %.

**Віцебск.** Пробы азімых культур на палях вобласці ў 1-й палове зімы паказалі гібель раслін з-за ўтварыўшайся падчас адліг ледзяной коркі на ўзроўні ад 10 да 22 %.

**Наваполацк.** Суд пакараў траіх рыбакоўбраканьераў пазбаўленнем волі на год з адтэрміноўкай прыгавору на 1 год, яны абавязаны яшчэ заплаціць 15 млн. рублёў штрафу.

**Орша.** На мясцовы недабудаваны стратны камбінат будматэрыялаў два месяцы не паступала сыравіна, пачаліся затрымкі з выдачай зарплаты, банкі не даюць крэдыты.

**Віцебск.** Былы інтэрнат тэлезавода "Віцязь" кіраўніцтва вобласці перадала для размяшчэння прыезджых навучэнцаў медкаледжа, музкаледжа і каледжа мастацтваў.

**Глыбокае.** Мясцовы МКК упершыню ўдзельнічаў у буйнейшай у свеце міжнароднай выставе харчавання "Зялёны тыдзень-2011" у Германіі, каб выйсці на рынкі Еўропы.

**Гарадок.** Двое чалавек, вадзіцель і даярка СВК "Полаўскі", трапілі ў рэанімацыю райбальніцы пасля абрушэння даху фермы падчас разгрузкі прывезенага корму.

**Наваполацк.** Услед за Віцебскам у горадзе размесціцца другі зводны атрад МНС па барацьбе з разводдзем, летась вясной было падтоплена 148 вёсак і пасёлкаў вобласці.

**Сянно.** На базе школы-інтэрната ў лабараторыі пчалярства аблсельгасхарч арганізаваў першыя двухтыднёвыя курсы і практычныя заняткі для аматараў пчалярства.

**Докшыцы.** У прыгараднай вёсцы Козікі з-за адсутнасці кадраў закрылі сельскі клуб, яшчэ раней перастаў тут працаваць сельмаг, многія на зіму з'ехалі жыць да дзяцей.

**Паставы.** На стадыёне ПМЦ устанавілі сучасную нямецкую сістэму асвятлення палёў, у клубе стаў працаваць галоўным трэнерам вядомы айчынны спецыяліст Сяргей Ясінскі.

**Дуброўна.** У балоце ля райцэнтра адшукалі дэталі збітага ў вайну савецкага пікіруючага бамбардзіроўшчыка Пе-2, што дае шанц ўстанавіць прозвішчы загінуўшых тут пілотаў.

**Ушачы.** У райцэнтры завяршаюць капітальны рамонт трэнажорнай залы ФАКа, дзе з'явяцца 2 сауны, кабінет масажу, санвузел і кабінеты спартклуба "Ураджай".

**Віцебск.** У абласным Дзяржархіве прайшла прэзентацыя другой кнігі з серыі "Памяць Віцебшчыны" пра баявы шлях 4-й Беларускай партызанскай брыгады, у ёй шмат фота.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

**У ліпені 2005 года Аляксей Коц з г. Наваполацка, – тады яшчэ навучэнец школы – апублікаваў у нашай газеце цікавы матэрыял, які прысвечаны мінуламу Зябак («ВГ» №29 (276), 14.07 2005 г.). Неўзабаве гэты матэрыял мы змясцілі на краязнаўчым сайце *radzima.org.* Як сталася, кагосьці гэты матэрыял паклікаў у дарогу. Хоць у матэрыяле, які мы прапануем увазе нашых чытачоў, часта ідзе спасылка на «Вольнае Глыбокае», але тут процьма новых звестак, якія так добра дапаўняюць колішні матэрыял Аляксея Коца, цяпер студэнта 4-га курса Полацкага дзяржаўнага ўніверсітэта.**

Адлегласць паміж вёскамі Празарокі і Зябкі, якія знаходзяцца ў Глыбоцкім раёне і калісьці былі габрэйскімі мястэчкамі, ледзь больш за дзесяць кіламетраў. Жыхары Зябкаў і Празарок заўсёды пачуваліся землякамі, адной вялікай сям'ёй. Гэта параўнанне не выпадковае. Нявесты з Зябкаў часта выходзілі замуж за жаніхоў з Празарок, часам здаралася і наадварот. Па панядзелках жыхары Зябкаў і Празарок сустракаліся на кірмашы ў Празароках, а калі з Зябкаў прыязджалі на кірмашы, якія некалькі разоў у годзе праводзілі ў Празароках, спыняліся ў сваякоў.

Цяжка сказаць, колькі габрэяў жыло да вайны ў Зябках, я лічу, што дзесьці каля 60 чалавек. А ў Празароках – разоў у сем больш супляменнікаў.

Габрэям Празарок і Зябкаў прыйшлося быць пахаванымі ў адной брацкай магіле. 6 снежня 1941 года фашысты расстралялі на ўскраіне Празарок габрэяў гэтага мястэчка і габрэяў з Зябкаў. І зараз ім стаіць адзін агульны помнік.

«Гісторыя вёскі Зябкі пачыналася з чыгуначнай станцыі. Размяшчалася яна на чыгуначнай лініі Балагое - Сядлецкая, якая пракладалася ў 1902-1907 гадах і на тэрыторыі Беларусі прайшла праз Полацк - Маладзечна - Ліду - Масты - Ваўкавыск. Чыгунка будавалася са стратэгічнымі мэтамі. У 1903 годзе пачалася кладка рэек, да канца 1904 года шлях быў пракладзены ад Полацка да Маладзечна, і таму ўжо ў 1905 годзе, задоўга да афіцыйнага адкрыцця чыгункі, быў адкрыты камерцыйны рух цягнікоў па лініі Полацк - Маладзечна - Ліда. У траўні 1906 года пайшлі цягнікі з Полацка на Балагое. 1 студзеня новая магістраль афіцыйна была перададзена ў склад Магілёўскай чыгункі», – гэта радкі з артыкула «Гісторыя вёскі Зябкі» Аляксея Коца, апублікаванай у газеце «Вольнае Глыбокае». № 29 (276), 14 ліпеня 2005 г.

*Падарожнічаем з Аркадзем Шульманам*

# У Зябках цішыня і супакой


Зябкі. Альгердаў Шлях. Справа – млын Рафаіла Ітмана.

**...Мы прайшлі Зябкі з канца ў канец. Была сярэдзіна дня. Зразумелая справа – дарослыя на працы, дзеці ў школе, але ўсё адно ў вёсцы была такая цішыня і супакой, што здавалася, як быццам тут спыніўся сам час.**

Прыехаўшы ў Зябкі, мы адправіліся на чыгуначны вакзал зусім не для таго, каб паглядзець расклад цягнікоў. Станцыя зараз не такая ўжо бойкая. Праходзяць усяго некалькі пасажырскіх цягнікоў і спыняюцца яны, у лепшым выпадку, на пару хвілінаў. А вось сам будынак вакзала зацікавіў. Пабудаваны ён з цэглы, гэта, кажучы сённяшняй мовай, тыпавы праект таго часу. Па гэтым жа праекце былі збудаваныя вакзалы ў населеных пунктах Фарынава, Загацце, Падсвілле, Круляўшчызна, Параф'янава. У Зябках вакзал захаваўся і зараз.

На станцыі Зябкі калісьці быў цэлы комплекс памяшканняў: казармы для чыгуначных службоўцаў, навучэнцаў і выкладчыкаў чыгуначнай вучэльні. Будынак вучэльні таксама месціўся побач. У той жа час была пабудавана і таварная чыгуначная станцыя.

Іншай цікавосткай Зябкаў з'яўляецца млын. Дакладней, яго рэшткі, якія дажываюць свой век. Калі-небудзь, я перакананы, у тутэйшыя мясціны будуць прыязджаць турысты, каб любавацца выдатнай прыродай, рыбачыць на самым глыбокім у Беларусі возеры Доўгае, убачыць геаграфічны цэнтр Еўропы – ён наўпрост пад нагамі, пакланіцца радзіме продкаў, і тады пачнуць рэстаўраваць стары млын, захочуць зрабіць гасцініцу, рэстаран – не было б толькі позна.

Пабудаваны млын быў па нямецкім праекце, пад кіраўніцтвам двух інжынераў, якія спецыяльна для гэтага прыязджалі з Нямеччыны. Чатырохпавярховая будынак са сховішчам, балконам і побач кузня. Калі глядзіш на сцены, якія руйнуюцца, столь, што абвальваецца, і ведаеш гісторыю гэтага будынка, пачынаеш думаць не толькі пра тленнасць свету, але і пра поўнае грэбаванне да таго, што перадалі нам папярэднія пакаленні.

Па суседству з млыном – прыгожы дом на высокім падмурку. Цяпер у ім знаходзіцца бібліятэка і фельчарска-акушэрскі пункт. Старыя па звычцы кажуць: «У гэтай хаце жыла Ітманіха». Гэта пра паваенную гаспадыню. Пабудаваў дом яе муж Рафаіл Ітман. За яго грошы быў пабудаваны і млын, ён быў яго сапраўдным уладальнікам. Дарэчы, сам працаваў і млынаром.

Праўда, дакументы на валоданне былі афармлены на паляка Шатыбалку. Ітман склаў з ім дамову, па якой распараджаўся ўсёй маёмасцю. Цяжка адказаць, навошта былі патрэбныя такія юрыдычныя зігзагі. Шатыбалка – паляк-асаднік. Калі Заходняя Беларусь была пад Польшчай, у Зябкі прыехала некалькі асаднікаў. Гэта людзі, адзначаныя за баявыя заслугі ў сябе на радзіме і якія атрымалі землі ва Усходніх Крэсах (польская назва тэрытогорый цяперашніх Заходняй Украіны, Беларусі і Літвы, якія некалі ўваходзілі ў склад Польшчы; «усходняя ўскраіна»). Можа быць, асаднікі мелі нейкія фінансавыя палёгкі, перавагі?



У 1920 годзе на станцыі Зябкі першы бой прынялі савецкія танкісты. Пра гэты факт сёння мала хто ведае. Для ўдзелу ў прарыве польскага фронта ў Полацк былі дастаўленыя тры танкі. Яны былі адбітыя ў дзянікінцаў і прайшлі грунтоўны рамонт на Пуцілаўскім заводзе ў Петраградзе: вялікі «МК V» («Рыкарда») і два «малых» «FT-17» («Рэно»). Каб перавезці танкі на левы бераг Заходняй Дзвіны, спешна быў збудаваны вялікі паром. У 6 гадзін раніцы 4 ліпеня 1920 года пад акампанемент гармат 33-й Кубанскай дывізіі танкі пачалі высоўвацца на заходнюю мяжу. На мінімальнай хуткасці – сем кіламетраў у гадзіну – яны перапаўзлі праз пярэднюю лінію чырвонаармейцаў і, не адкрываючы агню, разгарнуліся ў баявую лінію.

Два танкі ў гэтым баі былі падбітыя, трэці – зацята поўз наперад. Справа была зробленая, чырвонаармейскі ланцуг імкліва пераадолеў пакінутую ворагам пярэднюю лінію абароны.

Пра гэты бой у Зябках успаміналі і распавядалі да самага пачатку Вялікай Айчыннай вайны. Новыя рэаліі зацямнілі ўспаміны дваццацігадовай мінуўшчыны.

Немцы імкліва прасоўваліся ў першыя дні вайны па ўсім фронце. З Зябкаў ніхто не паспеў сысці на ўсход.

Гэтулькі раз у мястэчку змянялася ўлада за апошнія дзесяцігоддзі, габрэям заўсёды было несалодка, але засталіся жывыя і захавалі маёмасць. І немцаў бачылі ў Першую сусветную – перажылі бяду, – так ці прыблізна так разважалі Ітманы. Савецкая ўлада, якая прыйшла ў Зябкі 17 верасня 1939 года, забрала ў іх млын, хоць усё было нажыта сваімі рукамі. Асаблівай любові да новай улады Ітманы не паказвалі. Імкнуліся не зважаць на аповеды польскіх уцекачоў, якія з дрыготкай у галасе распавядалі пра зверствы фашыстаў.

Гаспадара млына Рафаіла Ітмана фашысты расстралялі ў першыя ж дні акупацыі*. Яго старэйшы сын вырашыў помсціць фашыстам. Сышоў на пошукі партызанаў і больш дахаты не вярнуўся. 6 снежня 1941 года, калі габрэяў Зябкаў фашысты пагналі на расстрэл, сям'ю Ітмана немцы адправілі ў глыбоцкае гета. Чаму для іх было зроблена выключэнне? Фашыстам патрэбныя былі спецыялісты, а жонка Рафаіла, Фаня Барысаўна, мела медыцынскую адукацыю.

Знаходзячыся ў гета, Ітманы звязаліся са сваімі даваеннымі знаёмымі - сем'ямі Леановічаў і Сікевічаў. Гэта былі глыбока веруючыя каталікі. Да вайны не раз прыязджалі ў Зябкі на млын да старога Ітмана. Пакуль малолі муку, любілі абмеркаваць мясцовыя навіны, а пасля працы не грэх і чарку выпіць.

Леановічы і Сікевічы прыехалі ў Глыбокае, таемна вывезлі Ітманаў з гета і павезлі на сялібу за 40 кіламетраў ад горада, дзе іх можна было надзейна схаваць – за ўкрывальніцтва габрэяў фашысты прыгаворвалі ўсю сям'ю да смяротнага пакарання смерцю. Чацвярых было складана схаваць так, каб ніхто не здагадаўся, і праз гэта сям'ю Ітманаў вырашылі падзяліць на дзве групы. У адной быў Міхаіл, 1923 года нараджэння, і яго мама, Фаня Барысаўна, 1901 года нараджэння. У другой– дзве сястры– Роза і Ганна, адной было трынаццаць гадоў, другой – пятнаццаць. Ітманаў хавалі, пераводзілі са склепа ў хлеў, са сховішча, што было за печкай, на гарышча. Пры наймалым падазрэнні перапраўлялі з хаты Леановічаў да Сікевічаў, што было нялёгка, бо хаты падзяляла возера. А затым перапраўлялі Ітманаў у партызанскую брыгаду імя ЦК КП(б)Б. Міхаіл патрапіў у атрад імя Дзянісава, а Фаня Барысаўна, Ганна і Роза – у санчастку.

Пасля вайны Ітманы вярнуліся ў Зябкі. Пасяліліся ў сваёй хаце. Там жа быў адкрыты і фельчарска-акушэрскі пункт. А затым у палове хаты, дзе жылі Ітманы, пасля іх ад'езду размясцілася бібліятэка.

Міхаіл Лейбавіч Фрыдман – аднагодак дзяцей Рафаіла Ітмана, у дзяцінстве яны разам гулялі, хоць пасля вайны наўрад ці сустракаліся адзін з адным. Міхаіл

*Заканчэнне на стар.11*

**Заўвага рэдакцыі:**
* насамрэч Рафаіл Ітман расстраляны 5.09.1942 г. Пахаваны ў Плісе на габрэйскіх могілках.

# 625-годдзе сёлета святкуе мястэчка Друя

Сёлета ў траўні ў Друі адбудуцца ўрачыстасці з нагоды 625-гадовага юбілею мястэчка. Да свята тут рыхтуюцца сур'ёзна. Ідзе добраўпарадкаванне. Падфарбоўваюць платы, яшчэ ўвосень пасадзілі бярозавую алею ўздоўж рэчкі Друйкі на падыходзе да мясцовай знакамітасці – сакральнага Барысавага камяня. На сродкі абласнога бюджэту завяршаецца рэканструкцыя будынка былога КБА.

Мясцовым жыхарам ёсць нагода для гонару. Упершыню Друя згадваецца ў «Хронікі польскай, літоўскай, жомойтской і всея Русі» М. Стрыйкоўскага аж каля 1386 г. Старажытны горад уваходзіў у склад Полацкага княства і знаходзіўся на буйным гандлёвым шляху. У XIV—XVIII стагоддзях на левым беразе Заходняй Дзвіны існаваў Друйскі замак. У XVI стагоддзі тут было створана рукапіснае Друйскае Евангелле. У 1515 г. горад быў спалены войскамі Вялікага Княства Маскоўскага, які ваяваў з ВКЛ.

У 1620 г. горад Друя атрымаў Магдэбургскае права і афіцыйны герб. Новы парадак меркаваў пераклад гарадскога справаводства з беларускага на лацінскую ці польскую мовы. У 1632 г. быў ізноў разбураны войскамі цара Міхаіла Фёдаравіча.

На пачатку XX стагоддзя ў Друі жыло шмат габрэяў, але з прыходам фашыстаў у Друі было створана габрэйскае гета, жыхары якога былі расстраляныя. На месцы расстрэлу габрэйская супольнасць ўсталявала стэлу поруч ракі Друйка. Таксама сіламі габрэяў аднаўлены могілкі, дзе былі пахаваны габрэі, якія жылі тут раней.

Друя – гэта сапраўдная скарбонка памяці пра складаны лёс нашага краю. Тут пераклікаюцца матывы не толькі беларускай, але і габрэйскай, латышскай, літоўскай, польскай і рускай гістарыяграфіяў. Такой багатай і складанай гісторыі могуць, у пэўным сэнсе, пазайздросціць многія сучасныя раённыя адміністрацыйныя цэнтры. Са святам, слаўная Друя!



**Вузкакалейны цягнік на станцыі Друя. 1930-ыя гг.**

**■ Уладзімір Скрабатун**

# Прафесар Леанід Лыч лічыць неабходным дабівацца вяртання з Санкт-Пецярбурга архіва ўніяцкай царквы на Беларусі

**Доктар гістарычных навук, прафесар Леанід Лыч лічыць неабходным дабівацца вяртання на радзіму архіва ўніяцкай царквы на Беларусі, які знаходзіцца ў Санкт-Пецярбургу. Пра гэта ён заявіў 28 студзеня ў Мінску на прэзентацыі сваёй кнігі «Уніяцкая царква Беларусі: этнакультурны аспект». 126-старонкавае навукова-папулярнае выданне выйшла ў сталічным выдавецтве «Кнігазбор».**

Паводле слоў аўтара, у кнізе прадстаўлены «рэальны твар уніяцтва — вельмі блізкага і дарагога для беларускага народа». Навукоўца не бачыць сёння ў Беларусі сілы, якая можа «абмяжоўваць рускі дух з Рускай праваслаўнай царквы і зрабіць яе нацыянальнай». На думку Лыча, пазітыўныя крокі да беларускай нацыянальнай ідэі робіць рымска-каталіцкая царква ў Беларусі. «Але ж гэта толькі ў буйных гарадах і пад кантролем нацыянальна свядомай інтэлігенцыі. А што тычыцца касцёла ў заходніх рэгіёнах краіны, то беларускасць не надта праходзіць праз яго дзейнасць», — адзначыў навукоўца.

Лыч упэўнены, што менавіта ўніяцтва мае найвялікшую перспектыву стаць нацыянальнай царквой беларусаў, бо прытрымліваецца нацыянальнай ідэі і дазваляе пераадолець канфесійны раскол нацыі і аб`яднаць яе вакол гэтай царквы.

Сярод актуальных праблем уніяцтва, якія трэба вырашыць айчынным грэка-каталікам, Лыч назваў аб`яўленне сябе спадкаемцамі спрадвечнага ўніяцтва на Беларусі на падставе непрызнання роспуску гэтай канфесіі ў 1839 годзе ўладамі Расійскай імперыі, якая «праводзіла антынацыянальную палітыку».

«Бо атрымліваецца, што грэка-каталіцызм жыве ў краіне толькі ў апошнія дзесяцігоддзі, а трэба заявіць, што гэтае веравызнанне існуе з часоў Берасцейскай царкоўнай уніі 1596 года (акт пра арганізацыйнае аб`яднанне каталіцкай і праваслаўнай цэрквaў на тэрыторыі Рэчы Паспалітай на ўмовах падпарадкавання рымскаму папе і прыняцця каталіцкай дагматыкі пры захаванні праваслаўнай абраднасці. — БелаПАН.)», — падкрэсліў Лыч.

Акрамя таго, на яго думку, трэба паставіць пытанне аб вяртанні маёмасці ўніяцкай царквы яе спадкаемцам, а таксама стварыць свецкадухоўную ўніяцкую грамаду з удзелам вернікаў і тых свецкіх прадстаўнікоў нацыянальнай інтэлігенцыі, якія падтрымліваюць духоўныя высілкі грэкакаталікоў.

***Марат Гаравы, БелаПАН.***

## Стары альбом

# Два будынкі насупраць

**Скажу адразу, што я не ў захапленні ад таго, што Глыбокае патрапіла на 18 гадоў пад уладу Польшчы. Я ж – прыхільнік незалежнай беларускай дзяржавы. Але што зробіш, гісторыя такая, якая ёсць! І пажадана пра гэтую гісторыю пісаць праўду…**

Адзначаю гэта невыпадкова, бо заўсёды знаходзяцца людзі, якія на нейкім інтэрнэт-форуме не прамінуць пакінуць каментар, што, маўляў, паводле Скрабатуна, для Беларусі былі залатыя часы толькі ў перыяд існавання Вялікага Княства Літоўскага ды за "панскай Польшчай". Савецкі ж перыяд – змрочныя часы: рэпрэсіі, расстрэлы, высылкі ў Сібір… І нічога добрага! Чорная пляма.

Прыходзілася чытаць і такое ў свой бок. Аднак, кожны чалавек мае права на прыватную думку. І крытыканы бачаць толькі тое, што хочуць бачыць.

Вось прыгадваецца канец 1970-ых гг ці пачатак 1980-ых… Даўно было! Свята вуліцы Маскоўскай. Адзначалася яно на пляцоўцы, якая знаходзіцца побач з будынкам ДОСААФ. Можна там было папіць ліманада ці яшчэ чагосьці – пагарачэй, закусіць шашлыком. Паслухаць спевы са сцэны.

Памятаецца, выйшаў тады на сцэну спадар Ромель, мой сусед, а на той час, калі не памыляюся, парторг мясакамбіната.

Прысутныя пачулі "праўду" пра «польскія часы»: гібеў наш народ пры паляках, на вуліцах Глыбокага – гразь і лужыны, ды без гумовых ботаў не абыйсціся.

Я б паверыў, калі б ён сказаў, што дзеячы беларускага вызвольчага руху сядзелі ў турмах і не было магчымасці атрымаць адукацыю на роднай беларускай мове. Як, дарэчы, і сёння. Пераследавалася беларуская культура.

А тут гразь! Неверагодна! Шмат якія старажылы, што ўжо адышлі ў вечнасць, сцвярджалі якраз наадварот – у палякаў быў парадак! Вось паехаў бы нехта на фурманцы праз Глыбокае, не прыбраўшы з бруку конскія "пончыкі"! Лічы, атрымаеш ад паліцыянта гумай па спіне! Таму ў возе заўсёды былі вядро, савок і венік…

Сёння мы прапануем увазе нашых чытачоў два здымкі 1930-ых гадоў будынкаў, якія стаялі на вул. імя ксяндза біскупа Бандурскага (цяпер Камуністычнай) – школы і тэхнікума. Яшчэ жывуць у нашым горадзе людзі, якія памятаюць гэтыя будынкі.

Трохпавярховы будынак пачатковай школы №2 – па цяперашняй лакалізацыі – стаяў насупраць гарадскога Дома культуры. Немцы, пакідаючы Глыбокае, узарвалі зусім навюткі будынак школы. Цяпер там стаіць двухпавярховы 16-кватэрны жылы дом. Будынак кравецка-бялізнярскага тэхнікума для дзяўчат, які быў пабудаваны не без стараннаў сястры Тадэі Касцюшкі, стаяў там, дзе сёння знаходзіцца аптэка доктара Шчэбета (насупраць крамы "Калізей"). Яго таксама знішчылі немцы. Дарэчы, быў узарваны і будынак Дома культуры, які ж самі немцы і пабудавалі. Яго ўсё ж пасля вайны аднавілі.

Гэта падаецца неверагодным, але такія гмахі ў Глыбокім насамрэч стаялі. Бязмежна шкада гэтых будынкаў. Цяпер толькі ў думках можна ўявіць, як бы сёння выглядала вуліца Камуністычная. Цэлы ансамбль будынкаў у стылі канструктывізму! Для паўнаты карціны, зразумела, дададзім будынкі, якія і сёння захаваліся: стаматалагічнай паліклінікі, ваенкамата і ДАІ. Вуліца еўрапейскага горада!

Зрэшты, гэта яшчэ не ўвесь ансамбль забудовы вуліцы Камуністычнай. За Домам культуры, па правым боку вуліцы, захаваўся добры тузін цікавых домікаў у "закапанскім стылі". Захаваліся, але знявечаныя перабудовамі. Спіленыя 80-гадовыя лістоўніцы і іншыя хвойныя экзоты… Не патрэбна нам прыгажосць!




**Шыльда. Паўлічана.** *Гл. здымак унізе.*

**Пачатковая школа перад сканчэннем будаўніцтва.**
***Фота каля 1939 года.***

Здымак Леанарда Рачыцкага.





**Будынак тэхнікума.** 31 жніўня 1938 года сам арцыбіскуп Рамуальд Ялбжыкоўскі асвяціў фундамент новага тэхнікума, які закончылі будаваць ў чэрвені 1939 года. У 1940-41 г. бальшавікі забралі будынак і зрабілі тут атэістычную школу, у 1942г. там былі нямецкія казармы, а ў 1944г. немцы, пакідаючы Глыбокае, узарвалі гэты будынак.

■ А.В. Протас,
*начальнік Глыбоцкай міжрайінспекцыі аховы жывёльнага і раслiннага свету.*

# Калі высякаюцца толькі дрэвы, падыходныя на дровы, а хмызнякі застаюцца, тады навошта праводзіць такую ачыстку?

Усе лясы ў Беларусі – уласнасць дзяржавы. Плошча ляснога фонду краіны складае больш за 9300 тысяч га. У лясах прыкметна перавага сасны звычайнай, яліны еўрапейскай, асіны, бяроз барадавістай і пухнатай, дуба чарэшчатага, алешыны чорнай і шэрай. Сустракаюцца вязы – шурпаты і гладкі, граб звычайны, ліпа драбналістая і іншыя. Разнастайнасць лясоў Беларусі характарызуецца 111 тыпамі лесу абарыгенных лесаўтваральных парод. Гэта 13 тыпаў сасновых лясоў, 12 тыпаў ельнікаў. Шыракалісцевыя лясы прадстаўлены 7 тыпамі плакорных, 5 – поймавых дуброў і 7 тыпамі ясеннікаў. Лясістасць тэрыторыі краіны складае 37,7%. Нягледзячы на ўсё гэта багацце, праблемай застаецца нізкая ўдзельная вага саспелых дрэвастояў, нерацыянальная пародная структура лясоў, драпежніцкае стаўленне да лесу. На тэрыторыі ўсёй вобласці поўным ходам ідзе праграма «чыстыя палі», што дазваляе павялічыць пасяўныя плошчы, добраўпарадкаваць палі і іх вонкавы выгляд, а насельніцтву і арганізацыям нарыхтаваць паліва.

Аднак асобныя грамадзяне пад падставай ачысткі палёў ад хмызнякоў займаюцца незаконнымі рубкамі дрэў, пры гэтым высякаюць самыя лепшыя дрэвы, пакідаючы пасля сябе яшчэ вялікую захламленасць, такія факты супрацоўнікамі міжрайінспекцыі будуць неадкладна спыняцца.

Так, 7 лютага 2011 года жыхар Глыбоцкага раёна грамадзянін Г., у лясным масіве паблізу г. Глыбокае незаконна спрабаваў высечы дрэвы, паспеў ссекчы 3 асіны, але быў выяўлены супрацоўнікамі інспекцыі, спрабаваў схавацца, але спартовец быў дрэнны, інспектары яго затрымалі і склалі адміністрацыйны пратакол.

Гэтак жа маюцца факты, калі пры нарыхтоўцы дроў грамадзяне парушаюць правілы рубкі дрэў, што прыводзіць да абрыву электраправадоў, а адпаведна і да штрафных санкцый з боку раённых электрычных сетак і міжрайінспекцыі.

Нярэдкія выпадкі вывазкі драўніны без неабходных дакументаў або без адзнакі службовай асобы лягсаса аб водпуску драўніны, такія парушэнні супрацоўнікамі інспекцыі перарываюцца неадкладна і вінаватыя нясуць адказнасць.

Супрацоўнікі Глыбоцкай міжрайінспекцыі заклікаюць грамадзян, якія ўдзельнічаюць у ачыстцы палёў ад хмызнякоў, асцярожна ставіцца да прыроды і якасна праводзіць ачыстку палёў не толькі ад дрэў, але і высякаць хмызнякі. Пры абследаванні асобных участкаў правядзення рубак вельмі часта можна назіраць, як высякаюцца толькі дрэвы, падыходныя на дровы, а хмызнякі застаюцца, тады навошта праводзіць такую ачыстку. За парушэнні правіл распрацоўкі адказныя асобы будуць прыцягвацца да адміністрацыйнай адказнасці.

Пра ўсе парушэнні прыродаахоўнага заканадаўства Вы можаце паведаміць на тэлефон «гарачай лініі» Глыбоцкай міжрайінспекцыі: 8-02156-2-86-70, маб. 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49.

■ Яўген Самсонаў

# «Беларуская лыжня – 2011» ў Глыбокім


Стартуюць мацнейшыя!

Звыш сотні спартсменаў выйшлі 13 лютага на старт спартовага свята "Беларуская лыжня" ва ўрочышчы Барок, што паблізу Глыбокага. Слупок тэрмометра паказваў амаль мінус 20, але гэта нікольні не засмуціла ўдзельнікаў спартыўных спаборніцтваў.

У 8 гадзін "касяк" рыбакоў на адведзенай пляцоўцы высвятляў сваё майстэрства і шанцаванне.

Афіцыйнае адкрыццё спаборніцтваў адбылося а 10 гадзіне.

Звыш дзясятка лепшых лыжнікаў з ліку кіруючых работнікаў выйшлі на дыстанцыю 5 км. Вось гэта была гонка! Першы круг высветліў лідараў – Леанід Корнышаў (ЖКГ) і ўслед за ім Аляксандр Плыгаўка (ВК-13). На другім крузе як бы памяняліся месцамі. Не дапамог рывок Леаніда на апошніх метрах перад фінішам – адставанне паўлыжы – другое месца. Здзівіў Даращчонак-малодшы (на здымку – справа). У сваіх 16 год абышоў бацьку, знакамітага лыжніка, і быў на фінішы трэцім.



Пераможца лыжных гонак – А. Плыгаўка.



Не менш весела, задорна і цікава прайшлі і іншыя спартыўныя старты і конкурсы: агульны забег на 1 км, лыжная эстафета сярод сяльчан, стральба, катанне на санках, перакідванне пакрышкі ад трактара.

Пераможцы былі ўзнагароджаны каштоўнымі падарункамі ў разнастайных намінацыях.

# У Талачынскім раёне зноў сваволяць браканьеры пры чынах

■ Сяржук Серабро

**29 студзеня ў паляўнічых угоддзях Талачынскай арганізацыі Беларускага таварыства паляўнічых і рыбаловаў быў затрыманы аўтамабіль, які накіроўваўся за тушай забітага кабана-сёлетніка. У кабіне знаходзіліся галоўны інжынер СПК «Рыдомльскі», ляснік Талачынскага лягсаса і беспрацоўны.**

Браканьеры паспелі адвезці дахаты зброю і боепрыпасы і накіроўваліся за здабычай. Але самі сталі здабычай работнікаў Аршанскай міжрайінспекцыі аховы жывёльнага і раслiннага свету. На месца здарэння была выклікана следча-аператыўная група Талачынскага РАУС, зараз разглядаецца пытанне аб узбуджэнні крымінальнай справы па ч.2 арт.282 КК РБ (незаконнае паляванне, якое пацягнула прычыненне шкоды ў буйным памеры – 60 базавых велічынь).

У той жа дзень, але ўжо ў паляўнічых угоддзях Верхнядзвінскай арганізацыі Беларускага таварыства паляўнічых і рыбаловаў затрымалі браканьера, які стаўся… выратавальнікам! Кіроўца пажарна-аварыйнага выратавальнага паста №16 Верхнядзвінскага раённага аддзялення надзвычайных сітуацый умыш пераносіў тушу казулі, незаконна здабытую з выкарыстаннем беспароднага сабакі. Следча-аператыўная група Верхнядзвінскага РАУС пры ператрусе ў двары дома выратавальніка выявіла шкуру яшчэ адной незаконна здабытай казулі, у адрыне і ў хаце – 2 незарэгістраваныя паляўнічыя стрэльбы з боепрыпасамі, а таксама чатыры патроны да нарезной зброі калібра 7,62 мм. У халадзільніку следчыя знайшлі мяса раней здабытай казулі. Верхнядзвінскім РАУС разглядаецца пытанне аб узбуджэнні крымінальнай справы па ч. 4 арт.282 КК РБ (незаконнае паляванне, якая пацягнула прычыненне шкоды ў асоба буйным памеры – 120 базавых велічынь).

Нагадаем, што нядаўна ў Талачынскім раёне былі затрыманы рэдактар раённай газеты, які ўдзельнічаў у незаконнай здабычы чатырох дзікоў.

# У Беларусі з 1 ліпеня будзе штомесяц праводзіцца выбарачнае абследаванне ўласных падсобных гаспадарак

Пачынаючы з 1 ліпеня 2011 года ў Беларусі будзе штомесяц праводзіцца выбарачнае абследаванне ўласных падсобных гаспадарак грамадзян, якія пастаянна жывуць у сельскай мясцовасці. Гэта прадугледжана пастановай Савета міністраў № 88 ад 26 студзеня 2011 года.

Як паведаміла прэсслужба ўрада, мэта абследавання– вывучэнне ўзроўню развіцця асабістых падсобных гаспадарак жыхароў сельскай мясцовасці, удасканаленне парадку збору інфармацыі аб аб'ёмах вырабленай у іх сельгаспрадукцыі.

Выбарачнае абследаванне ўласных падсобных гаспадарак вяскоўцаў будзе праводзіцца ў адпаведнасці з праграмай статыстычных работ, што зацвярджаецца Саветам міністраў. «Да гэтага часу адзінай крыніцай інфармацыі аб аб'ёмах вытворчасці прадукцыі ва ўласных падсобных гаспадарках быў пагаспадарчы ўлік, арганізацыя якога ўяўляе сабой даволі працаёмкі працэс. У міжнароднай практыцы для атрымання падобнай інфармацыі выкарыстоўваецца выключна выбарачнае абследаванне, што абумоўлена эфектыўнасцю, аператыўнасцю і эканамічнасцю гэтага метаду назірання», адзначае прэс-служба.

Базавай асновай для правядзення выбарачнага абследавання ў Беларусі з'яўляецца шматгадовы вопыт нацыянальных статыстычных служб Расіі, Украіны, Казахстана і Польшчы, а таксама навукова-даследчыя распрацоўкі Беларускага дзяржаўнага эканамічнага ўніверсітэта.

У Беларусі налічваецца 1,04 млн. дамашніх гаспадарак. Для атрымання аб'ектыўнай інфармацыі неабходна будзе праводзіць абследаванне 600 дамашніх гаспадарак (0,3% ад іх агульнай колькасці). Для правядзення абследавання будуць прыцягнуты 80 чалавек, якія прайшлі спецыяльнае навучанне, на падставе грамадзянска-праваых дагавораў з выплатай кожнаму адначасовага ўзнагароджання ў памеры 25 базавых велічынь (цяпер 1 БВ складае 35 тыс. рублёў). Грамадзянам, якія бяруць удзел у выбарачным абследаванні, установлена выплата штомесячнага грашовага ўзнагароджання ў памеры адной базавай велічыні.

Сродкі на правядзенне выбарачнага абследавання будуць прадугледжвацца пры фарміраванні рэспубліканскага бюджэту на чарговы фінансавы год.

***Марына Носава, БелаПАН.***

## Куды пайсці вучыцца

## ІМЯНІНЫ

**17 лютага**
**Пр.:** Абрама, Аляксандра, Аляксея, Георгія, Івана, Кірылы, Мікалая, Сідара, Сяргея, Фёдара, Юрыя.
**К.:** Сільвіі, Сусанны, Аляксея, Лукаша, Расціслава.

**18 лютага**
**Пр.:** Агафіі, Макара.
**К.:** Канстанцыі, Альберта, Максіма, Сымона.

**19 лютага**
**Пр.:** Марыі, Хрысціны, Анатоля, Васіля, Дзмітрыя, Івана, Максіма.
**К.:** Альжбеты, Міраславы, Арнольда, Міраслава, Пятра.

**20 лютага**
**Пр.:** Аляксандра, Лукі, Парфена.
**К.:** Анеты, Людмілы, Леха, Лявона, Юльяна.

**21 студзеня**
**Пр.:**Аляксандра, Андрэя, Захара, Сямёна, Фёдара.
**К.:** Ірэны, Элеаноры, Яўгеніі, Барталамея, Фелікса, Цэзара.

**22 лютага**
**Пр.:** Васіля, Генадзя, Інакенція, Маркела, Нікіфара, Панкрата.
**К.:** Ізабэлы, Марты, Нікіфара, Пятра.

**23 лютага**
**Пр.:** Валянціны, Ганны, Паўлы, Парфірыя, Прохара.
**К.:**Ізабэлы, Дзям’яна, Палікарпа, Рамана, Севярына.

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Русская дометрическая мера дров | | | | | | Горная индейка | | Должность и чин в казачьих войсках | Дерево рода ильм |
| Сказка Алексея Толстого | | Французский писатель-гуманист | | Небольшое возвышение | | Знак зодиака | | | |
| Отдельное состязание в беге | | | | | | Повесть Ивана Тургенева | | | |
| Музыкальный темп | | Торговая палатка | | Икона, лик святого | | | | | |
| | | | | | | | Соевый плод | | И вяз, и берест, и карагач |
| | Исполнение приговора инквизиции | | Курорт в Италии | | Остров в Вест-Индии | | | | |
| | | | | | | Остров в Индонезии | | Защитник | |
| | Река в Афганистане | | Водное млекопитающее | | | | | | |
| | | | | | | Гора в Греции | | Сладкая вязкая масса с орехами | |
| | Врач | Остров в Тихом океане | | Английский мореплаватель | | | | | Валюта прибалтийской страны |
| | | | | | | Не вполне ясный, сливающийся шум | | | |
| | Сказочная птица | Народ в Алжире, Мали | | | | | | | |
| Ткань | | | | | | Представитель народа на Кавказе | | | |

**Ответы на сканворд №6**
**По горизонтали:** "Воры". Алов. Амальгама. Блуд. Узел. Тавот. Имам. Наряд. Бог. "Анчар". Скачки. Унтер. Трал. Лаури. Диона. "Раф". **По вертикали:** Увал. Тыл. Омут. Рада. Агути. Лаз. Омега. Вал. Вид. Мяч. Мэр. Абсурд. Рок. Ягайло. Акула. Нина. Афера. Тур. Риф. Аи.

# ГАРАСКОП
## на новы тыдзень

**АВЕН.** Новы тыдзень адзначыцца цікавымі, незабыўнымі днямі. Тыдзень шчодры на падзеі: сустрэчы, паездкі, паходы ў госці, і ўсё гэта, нягледзячы на халодныя, марозныя дні. Ужо адчуваецца хуткі прыход вясны, ды і сонца свеціць ярка і па-вясноваму. Магчыма, вы будзеце занадта захоплены пакупкамі, бо на гарызонце адразу два святы. Хтосьці з найбліэйшага асяроддзя пазнаёміць вас з цікавым чалавекам, з якім працягнуцца сустрэчы. Так ці інакш, вы з карысцю праведзяце з ім час.

**ЦЯЛЕЦ.** Прыйшла пара Цялятам трохі адпачыць. Пасля перыяду навагодніх вакацый і вандраванняў вы так адчайна кінуліся ў працу, што хутка вамі можа авалодаць стомленасць. Таму ідэальна для вас паспрабаваць паслабіцца і сканцэнтравацца на чымсьці, акрамя кар'еры. Шануйце кожны момант, праведзены з блізкімі, і атрымлівайце асалоду ад цяпла каханых людзей. Прысвяціце выхадныя выключна адпачынку.

**БЛІЗНЯТЫ.** Працягваецца перыяд, які для Блізнят з'яўляецца спрыяльным. Праца спорыцца, асабліва ў першую палову тыдня, і вам застаецца толькі дзівіцца таму, як выдатна ўсё складаецца. Ды і рамантычныя адносіны, якія злучаюць вас з іншым чалавекам, не могуць не цешыць. Вельмі вялікая верагоднасць атрымання ад яго доўгачаканага і вельмі жаданага падарунка - гэта падзея хутчэй за ўсё здарыцца ў пачатку тыдня.

**РАК.** Не заўсёды на новым тыдні можна адчуваць цвёрдую глебу пад нагамі. Хтосьці, каму вы шчыра давяраеце, можа вас падвесці. Таму рэкамендуецца не слухаць занадта ўжо дакучлівых рад, але адказваць так, каб нікога не абразіць. Выступаць у ролі барацьбіта за праўду вам цяпер процілаказана. Адносна таемных нядобразычліўцаў, то хутчэй за ўсё яны - пасланцы з мінулага. Калі "празявалі" грошы ці захварэлі, але марыце зарабіць і вылечыцца, гэта магчыма.

**ЛЕЎ.** У надыходзячы перыяд знешнасць Ільвоў будзе адрозніваццa магічнай прывабнасцю, і ўсё дзякуючы Дню Святога Валянціна. Надыходзячы тыдзень спрыяльны не толькі для пачатку новых адносін, а і ў пачатых раней справах. Быць у нязменна выдатнай форме дапамогуць штодзённыя практыкаванні на расцяжку, асабліва практыкаванні для спіны і стану. Удзяліце гэтаму прынамсі 15 мінут штораніцы - і неўзабаве вы абавязкова заўважыце, што выправа стала лепшай, а сілуэт - зграбнейшым.

**ПАННА.** Для большасці Паннаў тыдзень – цалкам гарманічны і плённы перыяд. Дзякуючы партнёрам, яны могуць пачаць выгодныя праекты, якія дапамогуць захоўваць стабільнасць і прафесійную актыўнасць досыць доўгі час. Аднак Паннам неабходна памятаць: каб штосьці атрымаць, неабходна аддаваць, гэта значыць, супрацоўніцтва павінна быць узаемнае. Каб дамагчыся поспеху, як ніколі важна адгукацца на кліч дапамогі. Гэта для Паннаў кармічнае выпрабаванне. Калі яны яго вытрымаюць з гонарам, то шматлікіх з іх у будучыні чакае "рог багацця".

**ШАЛІ.** На працы не чакаецца якіх-небудзь значных змен, спробы палепшыць матэрыяльнае становішча адзначацца зменным поспехам. Затое на ніве кахання ў Шаляў не жыццё, а суцэльнае задавальненне. Першая палова тыдня падорыць прадстаўнікам знака незабыўныя імгненні. Для людзей творчых прафесій тыдзень вельмі спрыяльны, трэба карыстацца сітуацыяй і лавіць поспех за "хвост".

**СКАРПІЁН.** Тыдзень - важны перыяд для большасці Скарпіёнаў, цяпер адкрываюцца новыя перспектывы ў жыцці. Сустрэчы і зносіны прынясуць маральнае задавальненне. Скарпіёны стануць больш паспяховымі, папулярнымі, змогуць прыцягнуць удалыя сітуацыі і выгодныя прапановы, а таксама апынуцца ў цэнтры важных падзей. Тым часам Скарпіёны будуць больш засяроджаны на рамантычных сустрэчах і творчасці, чым на працы, і гэта можа адбіцца на кар'еры. Таму на працягу ўсяго тыдня неабходна больш часу надаваць працоўным абавязкам.

**СТРАЛЕЦ.** На новым тыдні ў Стральцоў узрасце цікавасць да грамадскай дзейнасці, а таксама да рамантычных прыгод і забаў. Гэта спрыяльны перыяд для ўмацавання матэрыяльнай базы, паколькі фінансавы нюх дапаможа беспамылкова адгадваць выгодныя праекты. Таму ўсіх Стральцоў чакае кар'ерны рост, умацаванне матэрыяльнага дабрабыту, а таксама заступніцтва ўплывовых людзей. Бліжэй да канца тыдня магчыма забаўляльнае вандраванне, адбудзецца вельмі цікавае знаёмства.

**КАЗЯРОГ.** Дзень Святога Валянціна стаўся для вас не проста святам кахання, а своеасаблівай кропкай адліку. Жыццё падзялілася на "да" і "пасля". Гэта звязана з кардынальнымі зменамі ў любоўнай сферы. Адкрыйце сэрца насустрач зменам, даўно наступіў час пераходзіць ад рамантыкі да больш сур'ёзнага этапу. Тыдзень павінен вызначыць будучыню вашых адносін. Калі на кар'ерным шляху сустрэнуцца цяжкасці, лепш падзяліць перажыванні з каханым чалавекам, які апынецца побач у патрэбную хвіліну.

**ВАДАЛЕЙ.** Тыдзень прадугледжвае, каб Вадалеі маглі выпрабаваць усе прыгажосці жыцця. Пускаць на самацёк тое, што важна ў дадзены момант, таксама непажадана. Таму не рэкамендуецца сядзець, склаўшы рукі, лепш праявіць настойлівасць. У каханні вам шанцуе, аднак варта быць асцярожнымі пры любым намёку на канфлікт. Добры чалавек - гэта не той, хто ўвесь час марнуе грошы і ўсім патурае. Трохі ашчаднасці ў фінансавых пытаннях цяпер не перашкодзіць.

**РЫБЫ.** З самага пачатку тыдня вы можаце змяніць сваё жыццё, зрабіць яго больш яркім і насычаным. Вызначыцеся з прыярытэтамі і кіньце ўсе сілы на дасягненне пастаўленай мэты. Цяпер вы - яркі прадстаўнік свайго знака, мужчыны носяць вас на руках. Займіцеся ўласнай знешнасцю, наведайце касметолага, стылiста, тым больш што зоркі раяць зрабіць гэта ў другой палове тыдня. Выхадныя - дні, калі вашага ўдзелу запатрабуюць хатнія справы.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі № 1210, выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь 8 лютага 2010 г.

“Вольнае Глыбокае”
Заснавальнік: Прыватнае інфармацыйна-рэкламнае ўнітарнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс»

Газета выходзіць адзін раз на тыдзень. Аб`ём – 4 друкаваныя аркушы. Падпісана ў друк 15. 02. 2011года ў $21^{05}$

«Вольнае Глыбокае» надрукавана на газетнай паперы РВУП **«Завод газетнай паперы» (г. Шклоў).**

Наклад 2000 паасобнікаў

**Рэдактар :**
**Уладзімір Іванавіч Скрабатун.**
**тэлефон / факс**: (02156) 2 46 14;
**E-mail**: vglybokaye@tut.by
Адрас для допісаў:
**211800 г. Глыбокае п/с 3**

Замова № 661

Меркаванні выдаўца і аўтараў могуць не супадаць. Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць і падбор матэрыялаў. Спасылкі на “Вольнае Глыбокае” абавязковыя.

Газета набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты «Вольнае Глыбокае». Надрукавана ў РУП «Перамога», Міністэрства інфармацыі РБ, 222310, г. Маладзечна, вул. Таўлая, 11. Афсетны друк.

Юрыдычны адрас: вул. Шпітальная, 44, ком.1, г. Глыбокае.

ISSN 2077-8023
9 772077 802009